№23

Сьнежань 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




Менск, 6 сьнежня 1998 года

# Юбілей за кратамі

Дзень 10 сьнежня, калі ва ўсім сьвеце адзначалі 50-годзьдзе прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, старшыня Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" Алесь Бяляцкі сустрэў у... сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку. Ён быў арыштаваны і асуджаны на 10 сутак за арганізацыю і правядзеньне 6 сьнежня мітынгу, прысьвечанага менавіта гэтаму юбілею. Разам зь ім за кратамі аказаліся намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту Юры Хадыка, журналіст-камуніст Валеры Шчукін і яшчэ чацьвёра грамадзянаў Беларусі... Некалькі чалавек за ўдзел у акцыі былі аштрафаваныя.

Гэта ня проста сімвалічна, што старшыня праваабарончае арганізацыі сустрэў юбілей Дэкларацыі за кратамі, гэта яшчэ і пацьвярджэньне той складанай сітуацыі, што існуе ў Беларусі, і яскравае сьведчаньне адносінаў уладаў да захаваньня правоў чалавека ў краіне.

Дарэчы, задоўга да юбілею прэзідэнт Беларусі і ягоныя паплечнікі заявілі, што сьвяткаваньне 50-годзьдзя прыняцьця Дэкларацыі правоў чалавека павінна прайсьці ў краіне на "высокім дзяржаўным узроўні". Была распрацаваная праграма мерапрыемстваў, прысьвечаных сьвяту. Але ні адно зь іх так і не было праведзеная.

Ціха і непрыкметна прайшоў "на дзяржаўным узроўні" і дзень 10 сьнежня: ні запланаванага ўрачыстага пасяджэння, ні ўсенароднага сьвяткаваньня не было. Юбілей беларускія ўлады адзначылі хіба што новымі арыштамі... праваабаронцаў.

А ўвогуле, падводзячы вынікі юбілейнага году і выступаючы на ўрачыстым пасяджэньні, прэзідэнту Беларусі было б чым "пахваліцца". Сёлета за ўдзел у акцыях апазіцыі было арыштавана, аштрафавана альбо асуджана больш за 500 чалавек. Асуджаны за "графіці" і знаходзіцца ў турме маладафронтавец Аляксей Шыдлоўскі. Сем чалавек атрымалі ўмоўныя тэрміны пакараньня. У турме, "пад сьледствам", знаходзяцца дэпутаты Вярхоўнага Савету Уладзімір Кудзінаў і Андрэй Клімаў, а таксама старшыня Віцебскай Рады БНФ Уладзімір Плешчанка. Больш за сто грамадзянаў Беларусі, якіх перасьледавалі ўлады і жыцьцю якіх пагражала небясьпека, папрасілі палітычнага прытулку за мяжою.

"Дасягненьні" відавочныя. Асабліва на тле эканамічнага крызісу, што ахапіў усю прамысловасьць і сельскую гаспадарку краіны, усе катэгорыі насельніцтва. Баючыся масавых выступленьняў рабочых пад кіраўніцтвам незалежных прафсаюзаў, прэзідэнт у сьнежні асабіста наведаў буйнейшыя прадпрыемствы, а падпарадкаваныя яму сродкі масавай інфармацыі і тэлебачаньня распачалі кампанію па дыскрэдытацыі і ганьбаваньні прафсаюзнага руху.

*(Працяг на стар.7)*

## Хроніка

***1 сьнежня*** **на гомельскім заводзе «Электраапаратура» прайшла стыхійная забастоўка рабочых інструментальнага цэху. Адказнасьць за яе правядзеньне ўзяў на сябе старшыня пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюзу Анатоль Паплаўны. Рабочыя патрабавалі павышэньня заробкаў.**

***1 сьнежня,*** **у сусьветны дзень барацьбы са СНІДам, гомельская арганізацыя «Грамадзянскага форуму» вырашыла зрабіць свой ўнёсак у справу змаганьня з "хваробай ХХ стагодзьдзя". Прыгожа аздоблены пакунак з прэзерватывамі быў дастаўлены ў Гомельскі Абласны Камітэт БПСМ (пралукашэнкаўскі Беларускі Патрыятычны Саюз Моладзі) разам з пажаданьнем: "Каб вы не размнажаліся!" Гэтай акцыяй "Грамадзянскі форум" спадзяваўся пазбавіць грамадства ня толькі ад СНІДу, але і ад ня менш страшнай хваробы — лукашызму, эпіцэнтрам якой зьяўляецца БПСМ.**

***2 сьнежня*** **запланаваная на гэты дзень акцыя пратэсту беларускіх прафсаюзаў перанесеная на 27 студзеня 1999 г. На прэс-канферэнцыі арганізатары акцыі (кіраўнікі пяці найбуйнейшых галіновых прафсаюзаў) назвалі прычыны пераносу акцыі: 20-ці градусныя маразы і згода ўраду пайсьці на дыялог з прафсаюзамі.**

***2 сьнежня*** **назіральніка «Вясны-96» Вадзіма Канапацкага і сакратара БНФ "Адраджэньне" Вячаслава Сіўчыка, асуджаных за ўдзел у прафсаюзнай акцыі 5 лістапада, вызвалілі са сьпецразьмеркавальніку на вул.Акрэсьціна. Сябры па партыі сустракалі палітычных вязьняў з духавым аркестрам.**

*(Працяг на стар.6)*

# Арышт напярэдадні сьвята


Станіслаў Карашчанка

У Мінску напярэдадні сьвяткаваньня 50-ых угодкаў абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека працягвалі арыштоўваць удзельнікаў акцыі 6 сьнежня, прысьвечанай юбілею.

9 сьнежня «невядомымі» асобамі ў цывільным быў затрыманы і зьбіты непаўналетні Станіслаў Карашчанка. Гэта здарылася пасьля заканчэньня мітынгу Свабоднага прафсаюзу Беларускага (СПБ) на мінскім праспекце Машэрава. На гэтай акцыі Станіслаў Карашчанка быў разам з назіральнікам Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Вадзімам Канапацкім, які толькі тыдзень таму выйшаў са сьпецразьмеркавальніка, дзе адбываў 10 сутак адміністратыўнага арышту.

— Калі мы праходзілі ля будынка Дома фізкультурніка, — распавядае Станіслаў Карашчанка, — мяне хтосьці ўдарыў па плячы. Я падумаў, што гэта жартуе нехта з маіх сяброў, але пачуў: «Стоять! Уголовный розыск!» Калі я павярнуўся, то ўбачыў чалавека без міліцэйскай формы. Я вырваўся, але другі чалавек у цывільным схапіў мяне. Яны пацягнулі мяне да аўтамашыны. Сабраўся натоўп. Людзі сталі патрабаваць адпусьціць мяне. Нейкі мужчына крыкнуў: «Нашых б'юць! Не аддавайце!» У гэты час да натоўпу падбеглі міліцыянты ў форме. Людзі ў цывільным кінулі мяне на зямлю і, схапіўшы за каўнер, пачалі душыць. Потым яны пацягнулі мяне да сьцяны Дома фізкультурніка. Там адзін з людзей у цывільным сказаў: «Што ты на публіку іграеш? Лезь у машыну альбо будуць праблемы!» Пасьля гэтага другі чалавек у цывільным ударыў мяне. У машыне ўвесь час, пакуль везьлі, яны білі мяне па сьпіне.

Станіслава Карашчанку даставілі ў Цэнтральны РАУС г.Мінску на машыне «Жыгулі» шэрага колеру.Калі выводзілі з машыны перад самым РАУСам ударылі яшчэ раз, так бы мовіць, «на разьвітаньне, каб не забываў». У РАУСе Станіслава сустрэлі людзі ў міліцэйскай форме і пачалі складаць пратакол...

Хто ж такі гэты хлопец і чаму супрацоўнікі міліцыі абыходзіліся з ім гэтак жорстка?

Станіславу Карашчанку шаснаццаць з паловай гадоў, ён вучыцца на сьлесара ў Цэнтры прафесійнай адукацыі Партызанскага раёну. Апрача гэтага, ён зьяўляецца сябрам "Маладога Фронту"— намесьнікам старшыні Партызанскай Рады.

Дарэчы, імя і прозьвішча ў Станіслава ўпершыню спыталі толькі ў РАУСе. Гэта сьведчыць пра тое, што людзі ў цывільным «працавалі па фотаздымках», зробленых падчас акцыі 6 сьнежня, і таму ім непатрэбныя былі імёны. У РАУСе Цэнтральнага раёну Станіславу, нарэшце, патлумачылі, у чым ён вінаваты.Яго віна ў тым, што падчас мітынгу ён трымаў мегафон перад Юрыем Хадыкам і выкрыкваў лозунг «Жыве Беларусь!». У РАУСе Станіславу паказвалі размытыя фотаздымкі, зробленыя 6 сьнежня сьпецслужбамі падчас мітынгу.

— У пакой, дзе складалі пратакол, — гаворыць Станіслаў Карашчанка, — зайшоў нейкі чалавек, які сказаў, што я непаўналетні і каб мяне ня білі. Мне паведамілі, што з мяне будзе спагнаны штраф за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу, потым патэлефанавалі дамоў маёй маці, каб яна прыехала і забрала мяне. Маці адказала, што ня зможа прыехаць, бо знаходзіцца дома з малым дзіцем. Супрацоўнікі РАУСу доўга вагаліся: ці адпускаць мяне дамоў аднаго...

У 5-й мінскай клініцы, увечары 9 сьнежня, Станіслаў Карашчанка быў агледжаны хірургам і неўрапатолагам, якія паставілі дыягназ: «пашкоджаньні мяккіх тканак галавы».

Станіслаў Карашчанка зьвярнуўся ў грамадскую прыёмную Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96», ён плануе падаваць скаргу ў пракуратуру на неправамоцныя дзеяньні праваахоўных органаў. Станіслаў Карашчанка хоча, каб было праведзенае службовае рассьледаваньне па факце яго зьбіцьця невядомымі людзьмі ў цывільным, а таксама высьветленыя іхнія асобы.

**Мікола КАЧАН**

# Без віны вінаваты...

Асаблівая ўвага прадстаўнікоў беларускае ўлады да асобы дэпутату Вярхоўнага Савета Валерыя Шчукіна, не зьмяніўшыся па сутнасьці, набыла новую форму. Апошнім часам падчас шэсьцяў і мітынгаў апазіцыі мінская міліцыя заклікае праз мегафоны "разыйсьціся" ня толькі ўсіх удзельнікаў, але і сп. Шчукіна асабіста. 6-га сьнежня праваабарончая акцыя БНФ на Кастрычніцкім пляцы сталіцы яшчэ не пасьпела распачацца, як Валеры Шчукін у ліку чатырох яе ўдзельнікаў ужо атрымаў ад міліцыянтаў афіцыйнае пісьмовае "запрашэньне" у пастарунак. Згодна з позваю, наступным днём, 7 сьнежня, разам з Юрыем Хадыкам, Алесем Бяляцкім і Міколам Статкевічам Шчукіна чакалі ў Цэнтральным РАУСе для складаньня пратакола. І — адпраўкі ў кабінет судзьдзі Цэнтральнага райсуда А. Барысёнка.

Аднак у гэты дзень да А. Барысёнка В. Шчукін не патрапіў. Бо за дзьве гадзіны да часу, які прызначылі дэпутату міліцыянты з Цэнтральнага РАУСу, у суседнім, Партызанскім раёне над ім пачаўся іншы суд. Гэта быў апошні працэс, праведзены судзьдзём М, Трубнікавым над удзельнікамі шэсьця прафсаюзаў 5 лістапада.


Валерый Шчукін

Сваю віну дэпутат не прызнаў. Ён заявіў, што 5-га лістапада пасьля дазволенага ўладамі мітынгу ішоў ад Трактарнага заводу ў рэдакцыю газеты "Народная воля", якая месьціцца на вуліцы Энгельса, недалёка ад будынку Адміністрацыі прэзідэнта. Маршрут Шчукіна супаў са шляхам людзей, якія несьлі да прэзідэнта і ягоных чыноўнікаў петыцыю рабочых. У руках Шчукіна быў сьцяг Свабоднага прафсаюзу, які ён узяў у старшыні СПБ Марыі Аліевай, бо "ня мог дапусьціць, каб гэткі доўгі шлях сьцяг несла жанчына".

Сьведкі — міліцыянты — сьцьвярджалі, што дэпутат Шчукін узначальваў калону дэманстрантаў і "выкрыкваў лозунгі". А старэйшы інспектар кадравага апарату Партызанскага РАУСу Аляксей Мазракоў яшчэ і ўдакладніў "віну" Шчукіна: "Не спыніў шэсьце, хоць міліцыя яго аб гэтым прасіла, бо Шчукіна людзі маглі б паслухацца — ён мае ўплыў".

Сам жа В.Шчукін зрабіў дзьве заявы. Па-першае, сказаў ён, ні ў адным заканадаўчым акце не прадугледжаная адказнасьць грамадзянаў за ўдзел у несанкцыянаванай уладамі акцыі — гэта можа тычыцца толькі яе арганізатараў. Па-другое, 5 лістапада не існавала ніякага дакументу, які б забараняў рух грамадзянаў па вуліцах Даўгабродскай, Казлова і праспекце Скарыны.Была толькі "прапанова" Мінгарвыканкаму ісьці ў бліжэйшы лесапарк...

Скончылася чарговая "справа" Шчукіна "скандальчыкам". Пасьля аб'яўленьня прысуду — 15 сутак арышту Валеры Аляксеевіч заявіў: "Я кадравы афіцэр, а афіцэры ня ходзяць на гаўптвахту пад канвоем. Скажыце, да якога часу мне трэба зьявіцца ў турме, і я прыйду сам..." У адказ на гэта судзьдзя Трубнікаў выклікаў міліцэйскі нарад, і журналісты зноў сталі сьведкамі таго, як міліцыянты цягнулі дэпутата на вуліцу і закідвалі яго тварам уніз у аўтамабіль...

Валеры Шчукін выйдзе з турмы за 2 дні да каталіцкіх Калядаў. Ва ўладаў яшчэ застанецца дастаткова часу, каб асудзіць яго за ўдзел і прамову на мітынгу 6 сьнежня. Нагадаем, што мінулы Новы год Валеры Аляксеевіч сустрэў за кратамі. Навагодні "падарунак" уладаў апазіцыянеру можа паўтарыцца.

**Тацяна ЖДАНОВІЧ**

# Віктар Івашкевіч: "У наступным годзе на мітынгі мы ўжо хадзіць ня будзем..."

***Канец XX стагодзьдзя нагадвае ягоны пачатак — сёньня працоўныя таксама вымушаныя выходзіць на вуліцы, каб змагацца за свае правы. І ўсё часьцей мы чуем, што начале выступленьняў працоўных выступае Свабодны прафсаюз Беларусі (СПБ). Адміністрацыя беларускіх прадпрыемстваў баіцца ўплыву Свабоднага прафсаюзу. Улады раздражняе актыўная нязгода Свабоднага прафсаюзу з сацыяльна-эканамічнай палітыкай, якая праводзіцца ў Беларусі. Сёньняшні мой суразмоўца — Віктар ІВАШКЕВІЧ, сябра Рады Свабоднага прафсаюзу (СПБ), галоўны рэдактар бюлетэню СПБ і камітэту абароны правоў працоўных "Рабочий".***

***— Спадар Віктар, калі і якім чынам узьнік Свабодны прафсаюз?***

— Спачатку варта сказаць пра рабочы рух і прафсаюзы. Афіцыйныя прафсаюзы на Беларусі заўсёды былі "школай камунізму" і засталіся з камуністычных часоў фактычна бяз зьменаў, нават кадравых. На сённяшні дзень існуе Федэрацыя прафсаюзаў (ФПБ) начале са спадаром Ганчарыкам, які быў і тады, пры камуністах, кіраўніком прафсаюзаў. З афіцыйных прафсаюзаў пад уплывам розных дэмакратычных працэсаў вылучылася група дэмакратычна настроеных кіраўнікоў: гэта спадары Бухвостаў, які ўзначальвае галіновы прафсаюз сельскагаспадарчага машынабудаваньня, Федыніч — радыёэлектроннай прамысловасьці. Яны выконваюць у прафсаюзах ролю гэтакіх вось гарбачовых — імкнуцца рэфармаваць, нічога не ламаючы, не выходзячы са старой структуры, ствараюць ілюзію таго, што можна рэальна за нешта змагацца, ня ўсё страчана. І ёсьць Свабодныя прафсаюзы, якія зараз уключаюць у сябе Незалежны прафсаюз, які існуе на базе гарнякоў Салігорска, Свабодны прафсаюз (СПБ), Прафсаюз металістаў (Трактарны з-д., МАЗ, Маторны з-д.), Дэмакратычны прафсаюз транспартнікаў, Свабодны прафсаюз педагогаў "Призвание". Усе яны аб'яднаныя ў Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў.

Свабодныя прафсаюзы ўзьнiклі ў часы барацьбы з уладамі — на базе страйкавых камітэтаў, створаных падчас страйкаў красавіка 1991 году. Утварыліся Свабодныя прафсаюзы напачатку 1992 году, і галоўнае іх адрозьненьне ад афіцыйных у тым, што тут не дапускаецца сяброўства наймальнікаў і працоўных.

Кіраўнікі афіцыйных прафсаюзных пярвічак на заводах не прызначаюцца, а выбіраюцца калектывамі, але гэта фармальна, фактычна ж — прызначаюцца дырэктарам, і яны нашмат болей залежныя ад дырэктара, чым ад свайго прафсаюзнага начальства. Яны, як правіла выконваюць нейкую ролю намесьнікаў дырэктараў па рабоце з кадрамі.

***— Магчыма, гэтая залежнасьць і паўплывала на адмену акцыі, прызначанай на 2 сьнежня?***

— Так, менавіта ў гэтым адказ на тое, што адбылося 2 сьнежня. Афіцыйныя прафсаюзы, фактычна, хацелі вывесьці рабочых супраць Лукашэнкі. Але пасьля таго, як ён сабраў дырэктароў і сказаў, што ўсіх пасадзіць, ці як мінімум выганіць


Віктар Івашкевіч

з працы, то дырэктарат вызваніў сваіх профпартнёраў, і сказаў: "Трэба адмяняць, інакш нас тут усіх пасадзяць". І кіраўнікі прафсаюзных арганізацый па заводах сказалі Бухвоставу, што яны ня могуць выйсьці, хаця людзі гатовыя былі.

Гэта тое, што тычыцца сітуацыі з афіцыйнымі прафсаюзамі. Свабодныя прафсаюзы, выступалі ў падтрымку акцыі 2 сьнежня. Яны не былі заявіцелямі, таму калі афіцыйныя прафсаюзы адмовіліся ад яе правядзеньня, Свабодныя прафсаюзы ня мелі юрыдычнай магчымасьці выйсьці на акцыю.

***— А што адбылося 5 лістапада?***

— Што тычыцца 5 лістапада, то мы, пайшоўшы ў падтрымку заявы афіцыйных прафсаюзаў правесьці акцыю пратэсту, таксама падалі заяўку на мітынг. Пасьля таго, як афіцыйныя прафсаюзы адмовіліся, Свабодны прафсаюз самастойна правёў акцыю. На мітынгу была прынятая рэзалюцыя, дзе было заяўлена, што калі праз месяц улады не пачнуць з намі дыялог у прамым эфіры па тэлевізіі, то мы заклічам людзей да страйку. Галоўныя патрабаваньні працоўных: мінімальная зарплата — не меней за 100 даляраў; заработнай плаце — статус першапачатковага плацяжу; прафсаюзам — свабодны доступ на тэлебачаньне і радыё, былі перададзеныя ў Адміністрацыю прэзідэнта.

***— Якім чынам?***

— На мітынгу было вырашана несьці рэзалюцыю, прынятую на ім, у рэзідэнцыю прэзідэнта. Такім чынам утварылася "несанкцыянаванае шэсьце", за арганізацыю якога мне была ў той жа вечар уручаная позва ў суд Партызанскага раёну. Суд па гэтай справе пераносіўся тры разы і адбыўся толькі 8 сьнежня. Судзьдзя М.Трубнікаў вынес рашэньне — штраф у памеры 54 млн. рублёў. Я лічу рашэньне суда несправядлівым і падаў абскарджваньне ў гарадскі суд.

Згодна з рэзалюцыяй мітынгу 5 лістапада, рыхтаваліся страйкі на 8-е і на 9-е сьнежня ў многіх гарадах Беларусі, але пад ціскам адміністрацыі, КДБ, візіцёраў з прэзідэнцкай "вертыкалі", адбыліся яны толькі ў Гародні, Магілёве ды невялікі мітынг у Мінску. Прадстаўнікі заводаў адзначылі, што яны рыхтавалі страйкі, але не правялі іх. Можна сказаць, што заява Свабоднага прафсаюзу аб тым, што будуць праведзеныя папераджальныя страйкі, праваліласа. Не ўдалося гэтага зрабіць, за выключэньнем страйку на брэсцкім "Сельмашы".

***— Якія далейшыя планы мае Свабодны прафсаюз?***

— Можна сказаць, што недасканала, памылкова дзейнічаў Свабодны прафсаюз, але ён толькі адзін і дзейнічаў, і зьбіраецца дзейнічаць надалей. Зараз мы зьбіраемся прыняць план на наступны год, дакладней, на наступныя паўгода. Нашыя патрабаваньні застаюцца, мы будзем думаць, як тэхнічна лепей і хутчэй падысьці да ўсеагульнага страйку. Мы думалі, што ён пачнецца зараз, але аказалася, што аднаго заклiку ў газеце "Рабочий", каб людзей падняць на страйк — мала. Таму наша задача — распрацаваць план і свае дзеяньні, каб усё ж такі дамагчыся выкананьня высунутых патрабаваньняў. У наступным годзе на мітынгі мы ўжо хадзіць ня будзем: трэба рыхтаваць страйкі, стачкі і перакрыцьцё чыгунак.

Мы чакаем піку актыўнасьці працоўных увесну ці напрыканцы зімы. Справа ў тым, што вось гэты эканамічны абвал усё роўна прывядзе да выбуху, калі напачатку году даляр будзе 500 тыс. бел руб., і зарплата ўпадзе фактычна да 10-20 даляраў. Напружаньне расьце, яно ўсё роўна будзе прарывацца.

Задача Свабоднага прафсаюзу ў тым, каб быць гатовымі да выбуху незадавальненьня працоўных, і, калі ён адбудзецца — надаць яму арганізаваныя формы. Прафсаюз неабходны, гэта — корпус хуткага рэагаваньня. Калі недзе адбываецца страйк, мы павінны хутка атрымліваць інфармацыю пра яго, і тут жа даваць туды дадатковы газеты, матэрыялы, пасылаць юрыстаў, эканамістаў, якія б дапамаглі сфармуляваць патрабаваньні, стварыць структуру ў выглядзе стачкама ці пярвічкі Свабоднага прафсаюзу, каб гэты выбух меў працяг. Наша справа, выкарыстоўваючы тыя магчымасьці, якія ёсьць — накіраваць гэты непазьбежны выбух супраць тых, хто канкрэтна вінаваты.

Вялікае значэньне тут будзе мець газета "Рабочий". Можа, і ня ўсім яна падабаецца, але тое, што ў ёй ёсьць праграма тэлебачаньня, прыцягвае людзей і яны разьбіраюць яе. Напрыклад, жонка мая ўчора кажа: "Віктар, дзе наш "Рабочий"? Што там сёньня па тэлевізіі?" І так у 80 тысячах сем'яў.

Тое, што сёньня газета "Рабочий" распаўсюджваецца накладам у 85 тысяч, а ўсіх членаў Свабодных, Незалежных прафсаюзаў усяго 20 тысяч, паказвае, што на сёньняшні дзень газета "Рабочий" — гэта зьява большая, чым Свабодны прафсаюз, бо, як казаў правадыр сусьветнага пралетарыяту: "Газета — гэта ня толькі калектыўны прапагандыст і калектыўны агітатар, але і калектыўны арганізатар".

**Гутарыла**
**Тацяна ЛІНЬНІК**

*...Да прыпынку аўтобуса шлях няблізкі, але спадар Кукабака свае паліто, шалік, пальчаткі, нават цёплы швэдар як бы зусім незнарок забываецца ў кватэры. Па мерзлай зямлі з тонкім покрывам сьнегу ён нетаропка, але ўпэўнена ступае ў летніх басаножках. Без шкарпэтак! Праслухаўшы мой маналог пра тэмпературу пад мінус сорак і неабходнасьць берагчы здароўе, спадар Міхась адказвае лёгкай усьмешкай і... рушыць далей. На тварах мінакоў, па ўсім, суседзяў — ні ценю зьдзіўленьня. Нібыта вось гэтак і трэба — амаль басанож ды па сьняжку!..*

*— Не, зараз ужо — зусім ня тое, — памяркоўна тлумачыць мне Міхал Ігнатавіч. Ён кажа гэта зь лёгкім адценьнем незадаволенасьці ці сабою самім, ці, можа, няўмольным часам: 3-га сьнежня яму спаўняецца 62 гады. — Ужо ня тое, што раней. Звычайна я выходзіў на прагулку ў лагеры без усялякага абутку да 12 лістапада. А сёньня ж, — спадар Кукабака паціскае плячыма, — усяго толькі сёмае!..*

*Такім ён і запомніўся мне — чалавекам, які бяз страху кідае выклік зіме...*

Рашэньнем суда Міхась Кукабака быў тады «вызвалены ад крымінальнай адказнасьці» і накіраваны на прымусовае лячэньне ў «псіхічную лякарню сьпецыяльнага тыпу». Яго абвясьцілі шызафрэнікам. Суд прызнаў, што, як сказана ў вышэйзгаданым дакуменце, «Кукобака М.И. представляет особую общественную опасность для общества». Яму было тады 33 гады — як сказалі б зараз, узрост Хрыста.

— Спадар Міхась, як для вас пачаўся шлях да дысідэнцтва?

— Гэта быў шлях звычайнага рабочага. Я зусім ня быў сьпешчаны нейкай асаблівай інфармацыяй. Газеты, часопісы, літаратура — як і ва ўсіх. Ніколі ня езьдзіў у замежжа, з забароненай літаратурай, натуральна, не

# Апошні савецкі дысідэнт,

## альбо Беларус, які стаў "падарункам Нью-Йорку"

...Міхал Ігнатавіч Кукабака рабіў гэта неаднойчы. Суровыя халады савецкага часу і ўсе вятры эпохі застою не змаглі прымусіць гэтага чалавека адступіць, затаіцца, замаўчаць, зьмяніць свае перакананьні і прынцыпы. Некалі вайна адабрала ў яго бацькоў і дзяцінства; «мірная савецкая рэчаіснасьць» — маладосьць. Шмат разоў "па волі лёсу" ён апынаўся далёка ад Бацькаўшчыны. Сёньня ж Міхась Кукабака — бадай, самы вядомы беларус-дысідэнт.

Мае сябры з Украіны аднойчы сказалі, што ўвогуле ня ведаюць фактаў супраціву бальшавіцкаму рэжыму ў Беларусі пасьля другой сусьветнай вайны, акрамя хіба дысідэнцтва спадара Кукабакі.

Менавіта з гэтага і пачалася наша гутарка са спадаром Міхасём у ягонай маскоўскай кватэры.

— Як вы лічыце, чаму мы так мала сёньня ведаем пра беларускі супраціў?

— Галоўная прычына, вядома, — тое, што ўлады ўвогуле імкнуліся ўсяляк замоўчваць любыя факты іншадумства. І вымушана, неахвотна прызнавалі, калі гэтыя факты траплялі на Захад і атрымлівалі розгалас. Тады казалі: «Так, ёсьць асобныя адшчапенцы», спрабавалі ўсяляк скампраментаваць такіх людзей. Мне ў гэтым сэнсе — ня ведаю нават, ці пасуе тут гэтае слова — «пашанцавала». Удалося прабіць сьцяну ізаляцыі...

### Першая справа

— Я — беларус. Нарадзіўся ў Бабруйску, правёў там дзяцінства. Пасьля сканчэньня, як сказалі б зараз, прафтэхвучылішча (рамесьленай вучэльні) мяне ў планавым наборы адправілі ў Сібір на будоўлю. Так званага камунізму... Потым — войска. Зноў жа, служыў далёка ад Беларусі: на Байкале, Далёкім Усходзе.

Пасьля войска Міхась Кукабака працаваў на заводзе ў Кіеве. Неўзабаве ён быў вымушаны зьехаць адтуль ва Уладзімірскую вобласьць Расіі, а праз колькі часу на сьвет зьяўляецца наступны дакумент. Знарок цытую яго на мове арыгіналу. Па-першае, дзеля захаваньня стылю і арфаграфіі, падругое, з-за «неперакладаемай гульні словаў» — непаўторнага савецкага канцылярска-судовага слэнгу.

У «определении» судовай калегіі па крымінальных справах Уладзімірскага абласнога суда па «справе N 2-3с» ад 4 лістапада 1970 г. гаворыцца: «Кукобака М.И. в 1967 - 1970 годах среди своего окружения систематически допускал клеветнические измышления, порочащие государственный и общественный строй. Так, в разное время, осенью 1967 года на Киевском заводе химикатов в присутствии Васильева, Станиславского (усяго сем прозьвішчаў —**Т.С.**) и других рабочих Кукобака клеветал на советскую действительность, политику советского правительства, заявляя при этом, что демократические свободы существуют якобы только в капиталистических странах... В ноябре 1969 года в цехе N 8 радио-завода в присутствии (5 прозьвішчаў —**Т.С.**) и других рабочих Кукобака возводил клевету на социалистическую демократию, восхвалял при этом так называемые буржуазные свободы слова и печати. В декабре 1969 года на территории Московского Кремля в присутствии экскурсантов Кукобака клеветал на советскую действительность и советский государственный строй. На вечере под новый год в женском общежитии в присутствии Романенковой, Можинской, Барановой, Федосеевой и Чурсанова Кукобака восхвалял жизнь народа за границей и клеветал на положение рабочего класса в СССР. В феврале 1970 года во время уборки территории радиозавода Кукобака враждебно отзывался о лозунге: «Жить и работать по-Ленински»...

При задержании и обыске у Кукобаки изъяты изготовленные им лично рукописи в виде письма на имя Генерального секретаря КПСС, ответа английскому журналисту А.Монтегю в связи с опубликованием им статьи в отношении изменника Родины Кузнецова и отдельных записей, в которых возводится клевета на советскую действительность и опорачивается политика Советского государства...»



**Міхась Кукабака**

знаёміўся. Радыёстанцыі амаль ня слухаў: і прыймальніка не было, і неяк ня дужа цікавіла. Маё дысідэнцтва ўзрасло з жыцьцёвага вопыту, назіраньняў... Гэта была досыць доўгая дарога — ад поўнае веры да поўнага адмаўленьня. Відаць, адыграла ролю і тое, што я быў даволі цікаўным чалавекам, любіў паспрачацца, усё браў пад сумненьне.

Вось, скажам, чытаю я ў газеце зусім апалітычную заметку: у Нью-Йорку столькі і столькі тысячаў бараў і рэстаранаў. Цікава. Як пісала прапаганда, Нью-Йорк — горад мільянераў і жабрацтва, «горад кантрастаў». Бяру даведнік: у Нью-Йорку недзе 13-14 мільёнаў жыхароў. Атрымалася, што адзін бар ці рэстаран прыпадае на 300 з лішкам. А напэўна ж мусяць быць яшчэ нейкія закусачныя, сталоўкі... Я тады жыў у Гур'еве, абласным цэнтры Казахстана. Пачынаю лічыць усе гандлёвыя кропкі горада, дзе можна перакусіць. Колькасьць насельніцтва — зноў з даведніка. Такім чынам, у Гур'еве бараў разам з кавярнямі ды рабочымі сталоўкамі атрымалася адзін на чатыры зь лішкам тысячы жыхароў. Розьніца з Нью-Йоркам — болей як у дзесяць разоў! І адразу — пытаньні...

Такіх выпадкаў было вельмі шмат.

А тут ужо паводле закону дыялектыкі: колькасьць такіх фактаў пераходзіла ў якасьць. Калі фактаў шмат і не знаходзіш ім тлумачэньня — значыць, табе проста хлусяць...

Як казаў Заратустра, ёсьць такая пасьлядоўнасьць: добрая думка — добрае слова — добрая справа... Так сп. Міхал перайшоў да справаў. Ён пачаў выступаць супраць фальшывых "суботнікаў" ды "васкрэсьнікаў", мерапрыемстваў у падтрымку то "борющегося Вьетнама", то чаго-небудзь яшчэ. Потым пачаліся падзеі ў Чэхаславаччыне. М.Кукабаку ў ліку многіх іншых выклікалі ў ваенкамат, каб паслаць на падаўленьне «Пражскай вясны». Тады ён заявіў: калі пашлеце, буду вымушаны павярнуць свой аўтамат супраць Саветаў — выступіць на баку чэхаў. Гэта скончылася першай спробай уладаў памясьціць яго ў «псіхушку». Але ўсё ж чамусьці не зьмясьцілі. А ў 69-м «Комсомольская правда» надрукавала матэрыял ангійскага пісьменьніка-камуніста Айвара Мантэгю. Як згадвае спадар Міхась, гэта быў «вельмі злосны, вельмі паклёпны ліст супраць рускага пісьменьніка Мікалая Кузьняцова, які эміграваў у Англію». Пад уражаньнем Кукабака напісаў свой адказ англічаніну: маўляў, вы, паважаны спадар, тут не жывеце, ня можаце меркаваць аб нашым жыцьці, тым больш у гэткай рэзкай форме... Дарэчы, пісаў артыкулы ён і ў часы пражскіх падзеяў, нават спрабаваў перадаць іх у чэскі друк праз генеральнае консульства Чэхаславаччыны. Ці атрымалася гэта, спадар Міхась так і не даведаўся. А вось увагу да сябе з боку «органаў» сваімі лістамі ён прыцягнуў. Яго пачалі выклікаць на так званыя прафілактычныя гутаркі ў КДБ, Кіеўскі гаркам партыі, пагражаць. Кукабака мусіў пераехаць з Кіева ў горад Аляксандраў ля Уладзіміра. Як бачна з цытаванай вышэй судовай пастановы, менавіта там ён і быў арыштаваны першы раз. Амаль шэсьць гадоў прайшло, пакуль імя Міхася Кукабакі ў дэмакратычных краінах стала адным з сімвалаў духоўнага супрацьстаяньня савецкаму рэжыму, і яго вызвалілі пад ціскам міжнароднай грамадскасьці.

## Сустрэча з Радзімай

— Пасьля першай судзімасьці я вярнуўся ў Беларусь. Гэта было ўжо ў 76-ым годзе. Спачатку спрабаваў уладкавацца ў Расіі, але не атрымалася. У той час у Савецкім Саюзе выйшаў закон аб льготах былым дзетдомаўцам, бацькі якіх загінулі на вайне. Я жыў тады ў інтэрнаце ў Бабруйску. Пайшоў да нейкага бабруйскага чыноўніка — здаецца, сакратара гаркама партыі. «Ну, па-першае, трэба яшчэ даказаць, што вы — дзетдомавец». Што тут даказваць? Вось, на вуліцы Мінскай, трэці дзетдом, усё лёгка праверыць. «Па-другое, вы павінны прадставіць «пахаронку»...». А дзе я знайду тую «пахаронку»? Я ж прыйшоў у дзіцячы дом як круглы сірата, малым дзіцём. У рэшце рэшт, ня так цяжка запатрабаваць адпаведныя дакументы.

Размова з партыйным чыноўнікам у спадара Міхася так тады і ня склалася. Ён сказаў, што савецкі чалавек, сапраўды, мае права на жыльлё паводле гуманнай савецкай Канстытуцыі — гэта значыць, мае права яго купіць, пабудаваць, стаць у чаргу... Ні пра якія льготы, якія дэклараваў нававыпушчаны закон, у дачыненьні да Кукабакі не было і гутаркі. І, напэўна, ня толькі да яго аднаго...

Хутка Міхась Кукабака "пайшоў" на новы тэрмін. Перад гэтым, у 77-м, яго зноў вярталі ў «лякарню сьпецтыпу» прышчапляць любоў да савецкай Канстытуцыі. Але на гэты раз — ненадоўга. Затое праз год справа закруцілася доўгая і сур'ёзная... «Так я ў Беларусі і не прыжыўся,» — заключае цяпер свой расповяд спадар Міхась.

Новы тэрмін «далі» па артыкуле 186-прым савецкага Крымінальнага кодэксу — за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». Фармальна гэта былі тры гады лагеру. Усе гэтыя тры гады на асуджанага аказваўся велізарны ціск з мэтай ягонага «пакаяньня». На думку «власть предержащих», Кукабака павінен быў адмовіцца ад сваіх ранейшых поглядаў прылюдна, дзеля чаго меркавалі адмыслова запрасіць карэспандэнтаў «Советской Белоруссии». Яму старанна малявалі блізкую «сьветлую будучыню»: вось ён прызнае памылкі, вось выходзіць на волю «з чыстым сумленьнем», і ўсё ягонае жыцьцё адразу зьмяняецца ў лепшы бок... Калі да выхаду на волю засталося два дні, да лагеру пад'ехаў «варанок». Кукабаку адвезьлі ў турму, была ўзбуджаная новая справа. Потым суд асудзіў яго яшчэ на тры гады — за тое, што «ня стаў на шлях выпраўленьня».

А потым гісторыя паўтарылася. Толькі цяпер у турму забралі за тыдзень да сканчэньня тэрміну і судзілі ўжо па артыкуле 67-м КК СССР (тая ж самая «антысавецкая агітацыя», толькі як бы больш небясьпечная — «з мэтай падрыву ўлады». Цікава, як яе можна падрываць, знаходзячыся за кратамі?). Гэта была чацьвёртая судзімасьць дысідэнта Кукабакі. І — трэцяя запар, без аніводнага дня на волі.

— Асуджаныя па 67-м артыкуле ўтрымліваліся ў сьпецлагерах: у Мардовіі, Пермскай вобласьці... Мне ўвесь час абяцалі, што на волю я ніколі адсюль ня выйду. Вызваляць сталі толькі тады, калі пачалася перабудова, калі Гарбачоў, як кажуць, у поўную сілу ўвайшоў. У 87-м годзе зьявіўся ўказ Гарбачова аб амністыі...

Тым ня менш, Міхася Кукабаку ня выпусьцілі на волю нават тады. КДБ вызваляла толькі пры ўмове, што вязень напіша ў пракуратуру адмысловую заяву: з абяцаньнем ніколі больш не «займацца антыдзяржаўнай дзейнасьцю».

— Я напісаў заяваў штукі тры ці чатыры. Але ніякіх абяцаньняў там не даваў. Я проста сьцьвярджаў, што злачыннай дзейнасьцю ніколі не займаўся, проста выказваў свае перакананьні і выступаў супраць парушэньняў правоў чалавека з боку дзяржавы. І працягваў сядзець...

У 1988 годзе Міхась Кукабака застаўся ўрэшце апошнім савецкім дысідэнтам. Дысідэнтам у чыстым выглядзе — частка палітзэкаў была асуджаная па абвінавачваньні не ў «агітацыі», а, напрыклад, у шпіянажы. У сьнежні 88-га кіраўнік Савецкага Саюзу Міхаіл Гарбачоў сабраўся з важным візітам у Нью-Йорк. Якраз да гэтай паездкі і пабачыў сьвет знакаміты нумар газеты «New York Times» з загалоўкам: «Падарунак Гарбачова гораду Нью-Йорку». Артыкул распавядаў, што сьпецыяльна да сесіі ААН з удзелам савецкага лідэра з турмы выпушчаны апошні дысідэнт СССР — Міхась Кукабака. За кратамі ён прабыў на гэты раз дзесяць год запар. Цяпер дату свайго вызваленьня спадар Міхась адзначае разам з днём нараджэньня.

## Проста жыцьцё...

...У пакоі і на кухні спадара Міхася пад самай столлю — маленькія сімвалы Радзімы. Два бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Адзін з іх — «гістарычны».

У 91-м годзе пасьля вядомых падзеяў у Вільні савецкая імперыя адзначала дзень свайго войска. 23 лютага сабраўся ўрачысты мітынг на Манежным пляцы ў Маскве, выступалі Язаў і Кручкоў — кіраўнікі КДБ і Міністэрства абароны. Разам з маладымі пацыфістамі-анархістамі спадар Кукабака прыйшоў на Манежную, каб выказаць пратэст. Агульным лозунгам моладзі быў: «Абаронім Радзіму ад Міністэрства абароны!». Спадар Міхась трымаў у руках транспарант і нацыянальныя сьцяжкі Літвы і Беларусі. Усё, акрамя беларускага сьцяжка, ушчэнт разарваў разьюшаны натоўп прыхільнікаў Язава з Кручковым. Дэманстранты-дэмакраты былі зьбітыя. Здымак, на якім нехта наносіць удар сп.Кукабаку, потым зьявіўся ў прэсе з подпісам: «Радавыя схваткі плюралізму».

— Чаму вы не засталіся пасьля вызваленьня ў Беларусі?

— Зусім не таму, што гэтага не хацеў. Я прыязджаў... Улады паставіліся да мяне дастаткова прахалодна. Я прыязджаў у Магілёў і, заручыўшыся падтрымкай тамтэйшых дэпутатаў ад Народнага Фронту, сустракаўся з мэрам гораду — быў такі спадар Габрусёў. Распавёў, што сядзеў у лагерах, рэабілітаваны, сам беларус, тут вырас. «Ці можна мне даць нейкі пакойчык, хоць памерам з турэмную камеру, няхай нават і ў камуналцы? Проста каб не залежаць ад кіраўніцтва завода, каб пры зьмене месца працы мяне не выганялі з заводскага інтэрнату». Мэр сказаў: «Такіх, як вы, у нас сто мільёнаў». Мы не знайшлі агульнай мовы, я зьехаў у Маскву і тут абжыўся...

Чалавеку, які пражыў усё свае жыцьцё па казённых дамах, які стаў адной з "візітных картак" беларускага антыбальшавіцкага супраціву, не знайшлося месца на ягонай радзіме... Нават напачатку 90-х. Ён не пасьпеў завесьці сям'ю ў маладосьці і, як зараз многія ягоныя аднагодкі, прычакаць унукаў. Міхась Кукабака супрацоўнічае з Хельсінкскай асацыяцыяй і проста імкнецца дапамагаць людзям. Выпрабаваньні зусім не азлобілі сэрца гэтага мужнага чалавека.

— Я проста жыву, працую, зарабляю на хлеб і нічым асаблівым не займаюся, — распавядае ён. — Напэўна, таму, што ў мяне няма пэўных здольнасьцяў, я не амбіцыёзны. Надрукаваць свае артыкулы часта бывае праблемай. Зараз столькі графаманаў, і потым — мая радыкальная пазіцыя па многіх пытаньнях...

— А праваабарончая дзейнасьць?

— Я не люблю слова «праваабаронца». Яно надта часта стала ўжывацца. Глядзіш, і сьцерлася... Чалавек проста павінен жыць і мець пачуцьцё ўласнай годнасьці. Як казаў Эмануіл Кант, «май адвагу карыстацца ўласным розумам». Найлепшая праваабарона — быць заўсёды самім сабой. І няхай тваім прыкладам кіруюцца іншыя...

**Тацяна СЬНІТКА**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*2 сьнежня* каля сьпецразьмеркавальніку на вул. Акрэсьціна супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы сябра Беларускай Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ) фотакарэспандэнт Уладзімір Сапагоў. У.Сапагоў планаваў зрабіць некалькі фотаздымкаў В.Канапацкага і В.Сіўчыка, якіх павінны былі ў гэты дзень вызваліць. Супрацоўнікі міліцыі патлумачылі сваё затрыманьне тым, што «сёньня была скрадзеная кінакамера» і таму трэба праверыць апаратуру У.Сапагова. Не зьвяртаючы ўвагі на словы У.Сапагова, што ў яго «не кінакамера, а фотаапарат», супрацоўнікі даставілі яго на службовай машыне ў Маскоўскі РАУС. Адтуль фотакарэспандэнта выпусьцілі ня склаўшы пратаколу.

*3 сьнежня* старшыня Гомельскай філіі Беларускага Хельсінкскага Камітэту Яўген Мурашка рашэньнем суда Цэнтральнага раёну г.Гомеля быў арыштаваны на 10 сутак. Сутнасьць справы заключаецца ў тым, што 7 лістапада Яўген Мурашка, аплаціўшы гандлёвае месца на Цэнтральным калгасным рынку, прадаваў плакат з надпісам «Злачынная тая ўлада, якая парушае правы сваіх грамадзянаў». Я.Мурашку інкрымінавалі правядзеньне несанкцыянаванага пікету.

У ноч *з 4 на 5 сьнежня* невядомыя патрыёты ўпрыгожылі г.Слуцк бел-чырвона-белымі сьцягамі. Нацыянальныя сьцягі з чорнай акаёмкай зьявіліся над пракуратурай, народным судом, райвыканкамам і ў іншых месцах. Яны нагадалі жыхарам гораду аб Слуцкім збройным антыбальшавіцкім паўстаньні ў лістападзе-сьнежні 1920 г.

*4 сьнежня* Мінскі гарвыканкам прыняў рашэньне аб забароне правядзеньня сходаў, мітынгаў, масавых шэсьцяў, дэманстрацый і пікетаваньня на Кастрычніцкім пляцы сталіцы Беларусі. Цяпер масавыя мерапрыемствы тут могуць праводзіць толькі з дазволу Савету Міністраў і гарвыканкама.

*6 сьнежня* на Кастрычніцкім пляцы г.Мінску адбыўся мітынг, прысьвечаны 50-ым угодкам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Заяўляльнікамі акцыі былі




2 сьнежня. Вадзім Канапацкі па выхадзе на волю.

намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Юры Хадыка і старшыня Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Алесь Бяляцкі. Акцыя адбылася, нягледзячы на перашкоды Мінгарвыканкама і супрацоўнікаў міліцыі. Яшчэ на плошчы арганізатарам уручылі позвы ў Цэнтральны РАУС.

Пасьля заканчэньня акцыі супрацоўнікі ГУУС пачалі масавыя затрыманьні. Машыны зьнешняга нагляду ўзялі ў аблогу Сядзібу Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», людзей, якія выходзілі адтуль, хапалі людзі ў цывільным і кідалі ў машыны. Загадчыца грамадскай прыёмнай «Вясны-96» Любоў Лунёва і журналіст Генадзь Барбарыч накіраваліся ў Цэнтральны РАУС г.Мінску з мэтай высьвятленьня колькасьці затрыманых, але былі вытураныя за межы РАУСу з ужываньнем фізічнай сілы.

Затрыманыя правялі ноч у сьпецразьмеркавальніку. Непаўналетнія Жывалеўскі Фёдар і Канаплёў Уладзімір былі адпушчаныя ў той жа дзень.

*7 сьнежня* ў Мінску адбыліся суды над затрыманымі ўдзельнікамі акцыі, прысьвечанай 50-ым угодкам прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У Цэнтральным судзе было разгледжана 15 адміністратыўных справаў. Судзьдзя Анатоль Барысёнак вынес наступныя прысуды:

1. *Бяляцкі Алесь*, старшыня Праваабрончага Цэнтру «Вясна-96», заяўляльнік акцыі — 10 сутак адміністратыўнага арышту;
2. *Хадыка Юры*, намесьнік старшыні БНФ «Адраджэньне», заяўляльнік акцыі — 10 сутак адміністратыўнага арышту;
3. *Сяргей Шынкевіч* — штраф 7 млн. бел. рублёў;
4. *Алег Шагулін* — 3 сутак адміністратыўнага арышту;
5. *Вячаслаў Бірыла* — штраф 7 млн. бел. рублёў;
6. *Міхаіл Новік* — папярэджаньне;
7. *Людміла Гразнова*, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня — папярэджаньне;
8. *Ядзьвіга Лабковіч* — папярэджаньне;
9. *Леанарда Мухіна*, настаўніца малодшых класаў, назіральнік «Вясны-96» — правяла ноч у сьпецразьмеркавальніку, на судзе атрымала папярэджаньне;
10. *Віктар Рабушка* — 3 сутак адміністратыўнага арышту;
11. *Эдуард Бокі* — папярэджаньне;
12. *Мікалай Каралёнак* — папярэджаньне;
13. *Уладзімір Кішкурна* — 3 сутак адміністратыўнага арышту;
14. *Алесь Станішэўскі* — штраф 7 млн. бел. рублёў;
15. *Мікола Статкевіч*, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» — 3 сутак;

*7 сьнежня* ў судзе Партызанскага раёну г.Мінска адбыўся судовы працэс над Валерыям Шчукіным за ўдзел у прафсаюзнай акцыі 5 лістапада. Судзьдзя Мікалай Трубнікаў асудзіў яго да 15 сутак адміністратыўнага арышту.

*7 сьнежня* ў г.Ганцавічы Брэсцкай вобласьці Мікола Занька, пад пільным кантролем супрацоўнікаў міліцыі, хадзіў па гарадскіх вуліцах з плакатам «50 гадоў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека».

*8 сьнежня* ў Мінску Павел Шарамет, журналіст тэлекампаніі ГРТ атрымаў Міжнародную прэмію свабоды прэсы Камітэту абароны журналістаў з рук выканаўчага дырэктара Камітэту Эн Купер.

*8 сьнежня* на пляцы Якуба Коласа ў Мінску адбыўся мітынг пратэсту супраць зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню працоўных. На адным з плакатаў была цытата з выступленьня прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі: «Рабочим платить надо так, чтобы глаза засветились». Пасьля заканчэньня мітынгу Лявон Садоўскі быў захоплены на трамвайным прыпынку асобамі ў цывільным. У машыне Л.Садоўскі чуў, як людзі, што схапілі яго, размаўлялі паміж сабой: «Працуем па фатаграфіі № 3". Меўся на ўвазе фотаздымак, зроблены 6 сьнежня на Кастрыніцкім пляцы. Л.Садоўскі правёў ноч у сьпецразьмеркавальніку на вуліцы Акрэсьціна. 9 сьнежня адбыўся суд, які вынес Л.Садоўскаму папярэджаньне. У якасьці сьведкаў на судзе выступалі тыя ж асобы ў цывільным, якія праводзілі затрыманьне.

*8 сьнежня* ў сьпецразьмеркавальніку на вул. Акрэсьціна адмовіліся прыняць у сяброў "Вясны-96" падручнік англійскай мовы для старшыні Праваабарончага Цэнтру Алеся Бяляцкага, асуджанага на 10 сутак адміністратыўнага арышту за арганізацыю мітынгу, прысьвечанага 50-ым угодкам абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Паводле "інструкцыі" разьмеркавальніку, кнігі «сутачнікам» перадаваць забаронена. Кілбаса, сала, фрукты і прадметы асабістай гігіены, прынесеныя для 7-мі асуджаных, ня выклікалі пярэчаньняў з боку адміністрацыі і былі прынятыя. Апрача гэтага ўсе асуджаныя атрымалі сьвежую прэсу, якая прайшла праверку (перадаваць дазваляецца толькі тое, што можна набыць у кіёсках «Белсаюздруку»). Спачатку ўсе сем асуджаных знаходзіліся ў адной камеры. Потым Валеры Шчукін, добра вядомы супрацоўнікам разьмеркавальніку як аўтар цыклу артыкулаў, прысьвечаных умовам утрыманьня на Акрэсьціна, быў пераведзены ў адзіночную камеру.

*9 сьнежня* Беларускі Народны Фронт наладзіў на пляцы Якуба Коласа ў Мінску пікет супраць планаў аб'яднаньня Беларусі і Расіі. Людзі трымалі плакаты: «Чым саюз цясьнейшы, тым народ бяднейшы».

*9 сьнежня* ў Мінску на прасьпекце Машэрава каля

Палаца спорту адбыўся мітынг, арганізаваны Свабодным прафсаюзам Беларускім(СПБ). Сабралася больш за дзьвесьце чалавек. Яны выступілі супраць сацыяльна-эканамічнай палітыкі, якую праводзіць урад. Таксама было вылучанае патрабаваньне аб павышэньні мінімальнага ўзроўню заробку.

*9 сьнежня* пасьля заканчэньня чарговай акцыі Свабоднага прафсаюзу Беларускага (СПБ) на праспекце Машэрава асобамі ў цывільным былі затрыманы непаўналетні (16 з паловай гадоў) Станіслаў Карашчанка — навучэнец Цэнтра Прафесійнай адукацыі Партызанскага раёну (вучыцца на сьлесара). Пры затрыманьні Станіслаў быў зьбіты людзьмі ў цывільным, якія нават не паказалі свае пасьведчаньні. У Цэнтральным РАУСе быў складзены пратакол... У прыёмным пакоі 5-й мінскай клінікі, куды зьвярнуўся С.Карашчанка ўвечары 9 сьнежня, ён быў агледжаны хірургам і неўрапатолагам. Быў пастаўлены дыягназ: "пашкоджаньне мяккіх тканак галавы».

*9 сьнежня* Кіраўскі раённы суд прыняў рашэньне аб пераносе наступнага паседжаньня па справе экс-старшыні калгасу «Расьсьвет» Васіля Старавойтава ў сувязі са станам здароўя — у падсуднага абвастрыўся бранхіт. Гэта першы выпадак, калі праваахоўныя органы прызналі яго стан здароўя кепскім. Тэмпература ў камеры, у якой утрымліваецца В.Старавойтаў, вельмі нізкая. Акрамя таго, у СІЗА у бальнічнай камеры няма неабходнага медыцынскага абсталяваньня. Між тым стан здароўя В.Старавойтава працягвае пагаршацца.

*10 сьнежня* Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» у цэнтры Мінску (каля крамы ЦУМ) арганізаваў пікет, прысьвечаны 5О-ым угодкам абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

*10 сьнежня* Беларускі Хельсінкскі Камітэт арганізаваў пікет, прымеркаваны да 50-ых угодкаў абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

*10 сьнежня* беларуская сацыял-дэмакратычная моладзь з арганізацыі «Маладая Грамада» з нагоды 5О-ых угодкаў прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека правяла пікет у скверы на рагу вул.Няміга і Гарадскі вал г. Мінску.

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

# Міжнародная Амністыя



Тысячы людзей сядзяць за кратамі толькі таму, што яны не жадаюць згаджацца з палітыкаю, якую праводзіць урад іхняе краіны. Агромністая колькасьць народу знаходзіцца ў вязьніцах па прысудах падуладных судоў. Шмат вязьняў бяз вынесеных судовых прысудаў. Шырока распаўсюджанае сьмяротнае пакараньне і катаваньні. Мужчыны і жанчыны "зьнікаюць" у выніку ўзяцьця пад варту. Лёс дарослых падзяляюць дзеці і падлеткі. Іншым наканавана быць забітымі ў выніку дзейнасьці таемных урадавых службаў.

Такія парушэньні маюць месца ў сотнях краінаў і, зразумела, патрабуюць рэагаваньня сусьветнае супольнасьці. Абарона правоў чалавека — гэта найперш адказнасьць і абавязак кожнага, а дзейнасьць зьвязаная з ёй не павінна мець аніякіх перашкодаў як у краіне, так і за яе межамі. Гэта той прынцып, на якім базуецца і па якім дзейнічае Міжнародная Амністыя.

Міжнародная Амністыя – незалежная міжнародная арганізацыя, якая выступае за абарону і ўсьведамленьне правоў чалавека.

У 1961 годзе англійскі юрыст сп. Пітар Бэнансон напісаў артыкул у газету з заклікам мірным шляхам распачаць працу па вызваленьні вязьняў сумленьня. Ужо на працягу наступнага месяца больш за тысячу чалавек з розных краінаў сьвету прапанавалі сваю практычную дапамогу. Тое, што пачалося як адзінкавая спроба, перарасло пазьней у сусьветны рух.

Міжнародная Амністыя не падтрымлівае і не супрацьстаіць таму альбо іншаму ўраду ці сістэме нагул. Яна не падтрымлівае і не аспрэчвае погляды вязьняў, якіх мусіць бараніць. Арганізацыя займаецца выключна правамі чалавека, якія парушаюцца ў асобна ўзятым выпадку, незалежна ад ідэалогіі ўраду альбо пераканаўньняў ахвяры.

Галоўнымі мэтамі Міжнароднай Амністыі зьяўляюцца:

- вызваленьне ўсіх вязьняў сумленьня;
- забесьпячэньне праўдзівых і хуткіх судоў для палітычных зьняволеных;
- адмена сьмяротнага пакараньня, катаваньняў ды жорсткага абыходжаньня з вязьнямі;
- спыненьне пазасудовых пакараньняў і "зьнікненьняў".

Міжнародная Амністыя выступае супраць захопу закладнікаў, катаваньня і забойства вязьняў, супраць іншых нахабных забойстваў. Асноўны спектр адказнасьці Міжнародная Амністыя скіроўвае на ўрад краіны.

Пры неабходнасьці тэрміновых дзеяньняў дзеля вырататаваньня жыцьцяў людзей па ўсім сьвеце падымаецца па трывозе сетка добраахвотнікаў.

На адрас урада які парушае правы чалавека, дасылаюцца тысячы лістоў, факсаў, тэлексаў ды тэлеграмаў з патрабаваньнем: спыніць перасьлед, вызваліць незаконна і беспадстаўна затрыманых, выконваць Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.

На сёньняшні дзень Міжнародная Амністыя мае філіі ў 40 краінах сьвету, акрамя гэтага працуе вялікая колькасьць мясцовых групаў.

Дзеля забесьпячэньня шчырасьці й недатыкальнасьці сябры Міжнароднай Амністыі не адсочваюць парушэньне правоў чалавека ва ўласнай краіне. Але могуць, згодна прынцыпаў, удзельнічаць у актыўнай працы па наладжваньні семінараў, канферэнцый ды іншых мерапрыемстваў на падвышэньне прававое адукацыі грамадства. Каб мацнейшай была еднасьць, сябры Міжнароднай Амністыі з іншых куткоў сьвету займаюцца вышэй згаданымі праблемамі.

На сёньняшні момант у Беларусі, прынамсі ў Мінску, арганізаваная ініцыятыўная група па стварэньні прадстаўніцтва Міжнароднай Амністыі. У яе ўвайшлі маладыя і энергічныя людзі, якія плануюць ужо да сярэдзіны наступнага году выйсьці з шэрагаў пачаткоўцаў і далучыцца да кагорты вядомых на Беларусі праваабарончых арганізацыяў.

Ачольвае ініцыятыўную групу Уладзь Лабковіч. У складзе групы студэнты і рабочыя, журналісты і юрысты.

Зьвязацца з сядзібаю Міжнароднае Амністыі ў Лондане Вы можаце, напісаўшы па адрасе:

*Amnesty International*
*International Secretariat*
*1 Easton Street, London*
*WC1X 8DJ, Англія.*
*Тэлефон:*
*(44) (71) 413 5500.*
*Тэлеграмы:*
*Amnesty London WC1.*
*Тэлекс: +44 71 956 1157.*

На Беларусі адрасы кантактаў наступныя:

*220007 Мінск, а/с 88;*
*тэлефон/факс:*
*(017) 239 31 17;*
*(017) 237 37 38; E-mail:*
*vitaj@cscsc.lingvo.minsk.by*
*Vitaj Ђаниc-Љаrkoьski*

**Падрыхтаваў**
**В. Жагунь-Шаркоўскі**

# Юбілей за кратамі

*(Пачатак на стар. 1)*

Хвалю пратэсту надзвычайнымі намаганьнямі і запалохваньнямі ўдалося стрымаць. Але эканамічная сітуацыя ў краіне працягвае пагаршацца. Напярэдадні юбілею Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў друку зьявіліся паведамленьні, што за рысаю беднасьці ў Беларусі знаходзіцца больш за 90 працэнтаў насельніцтва, сярэдні заробак у краіне складае 24 даляры (пры мінімальным у 1,5 даляры), сярэдняя пенсія — 14 даляраў... І гэта пры тым, што на шматлікіх прадпрыемствах і асабліва ў бюджэтных арганізацыях, калгасах, саўгасах заробак не выплочваецца па некалькі месяцаў, што цэны нават на прадукты першай неабходнасьці дасягнулі нябачных вышыняў. Пра які ж росквіт правоў чалавека ў Беларусі можна гаварыць, калі да горла людзей працягвае свае кашчавыя рукі голад, калі на першы план выходзіць самае элементарнае: барацьба за выжываньне.

**Андрэй НАЛІВА**

Андрэй Мельнікаў

# Вандроўка за краты

Шэсьць гадзінаў раніцы. Пад'ём. Складваем "верталёт". Даюць сьняданак: кашу, не зразумець з якіх крупаў, у алюміневых "шлёмках" (місках) і "чай" у алюміневых кубках, абматаных ніткамі і бяз ручак. На ўсіх даюць тры ці чатыры "вяслы" (лыжкі). Ядзём імі па чарзе.

А палове на дзевятую — званок на ранішнюю праверку. Новая зьмена: карпусны з паставымі абыходзяць усе "хаты". Падчас пераклічкі кожны з нас павінен назваць сябе, артыкул, статус (падсьледны, падсудны, асуджаны), тэрмін... Інтэлігент,выяўляецца, ідзе па 188-м артыкуле: аказаньне супраціву прадстаўніку ўлады). Потым ён гаворыць: "Усе мы тут палітычныя, а пра мяне і казаць няма чаго, такіх "мянты" ня любяць..."

Пасьля праверкі мяне і яшчэ двух з нашае "хаты" выхопліваюць на медкамісію. Вядуць праз знаёмы змрочны "перадлазеньнік"у суседні двор. Праходзім праз аўтафургон-рэнтген, а потым здаем кроў з вены на аналіз. Працэдура малапрыемная. Да таго ж шпрыц у "медыка" — шматразовы. Водгукі пра гэтага "аналізатара" у зэкаў толькі адмоўныя: аднаразовыя шпрыцы "заціскае", шматразовыя — не стэрылізуе, іголкі ў яго тупыя, у вену патрапіць ня можа... Словам, канавал, садыст.

Далей ідзем фатаграфавацца: анфас і профіль. Потым яшчэ адна абавязковая працэдура: "піяніна" — зьняцьце адбіткаў пальцаў з дапамогай кампутара: для "Інтэрполу". Пры наступных затрыманьнях ідэнтыфікаваць маю асобу цяпер будзе лёгка.

У гэты дзень чакала нас яшчэ адна радасьць: паход усёю васьмёркаю ў лазьню. Распранаемся, рэчы адразу нясем у "пражарку". Пакуль мыемся, вопратка праходзіць тэрмічную апрацоўку. На "памыўку" па норме даецца дваццаць хвілінаў. Здаецца, нас не абкрадаюць: даюць менавіта стольki.

У "хаце" у спакоі нас не пакідаюць. Пачынаюць па адным выклікаць да "кума". Ветлівы старлей інтэлінтнага выгляду распытвае пра прычыны "пасадкі". Не адмаўляю, што перайшоў мяжу Літвы, але кажу, што хадзіў па землях, дзе спрадвеку жывуць беларусы, па нашай дарозе "з Вільні на Полацак", якой ужо за семсот гадоў... Кажу пра Канферэнцыю беларусістаў у Гданьску, пра "Бардаўскую восень" у Бельску Падляшскім, пра зьезд маладых беларусаў сьвету, на якія запрошаны. Кажу пра старую хворую маці і малога сына, якія знаходзяцца на маім ўтрыманьні, і якім я нічым не магу дапамагчы, знаходзячыся за кратамі.Кажу, што гэта не ўлічылі, калі прызначалі мне меру стрыманьня. А таму я вымушаны буду зноў пайсьці на галадоўку, каб дамагчыся больш прыстойных умоваў.

Прамова мая была хоць і лагічнай, але наіўнай. У кожнага зэка ёсьць ці хворыя сваякі, ці малыя дзеці. Але ніколі яшчэ не стала гэта прамою прычынай зьмены меры стрыманьня. Гэта вам ня Захад...

Як і казаў Інтэлігент, "кум" пачынае адгаворваць мяне ад галадоўкі. Аргументы тыя ж, што і ў зэка. І заключныя словы такія ж: "Толькі здароўе сабе падпсуеш..."

Прашу ў "кума" некалькі чыстых аркушаў паперы, каб напісаць скаргу "на зьмену меры стрыманьня" у суд Ленінскага раёну Гародні, у якім знаходзіцца турма. Скаргу пішу па-беларуску. Калі зачытваю ў камеры, што атрымалася, чую ад суседзяў па "хаце" кампліменты за прыгожы стыль і аргументацыю.

Увогуле, прыгожы стыль у зэкаўскім асяродку высока цэніцца. Тут любяць слоўныя выкрутасы. Адсюль і пэўная кніжнасьць ды архаічнасьць у "малявах", якія адзначаюцца дасьледчыкамі турэмнага жыцьця.

Дванаццаць гадзінаў. Абед. Гарохавы суп — вельмі вадкі, але гарошыны трапляюцца. "Вёслы" ды "шлёмкі" тыя ж, што і ранкам. Пасьля абеду мне і яшчэ аднаму хлопцу дастаюцца пайкі сала з хлебам і цыбуляю: учора мы рана ляглі спаць і не паелі разам з усімі. "Калега" распраўляецца са сваёй порцыяй хутка, а я расьцягваю задавальненьне, спалучаю ежу з чытаньнем газеты. Гэтак рабіў я на волі... Раптам заўважаю нейкае нядобрае напружаньне ў вачах ды і ўсёй постаці "сотчыка". Праходзіць яшчэ колькі хвілінаў і ён не вытрымлівае, пытае, ці хутка я скончу есьці, бо яму трэба на "дальняк" перад раскідкай па "хатах".

Дарэчы, гэта адзін з істотных і важных момантаў турэмнага жыцьця: спраўляць патрэбу падчас ежы нельга, як і выпускаць паветра. Гэта — адзін з сур'ёзных "касякоў". У крайнім выпадку трэба прасіць па тое дазволу.

У пэўных асяродках вялікім "касяком" лічыцца толькі спраўляньне вялікай патрэбы пад час ежы,а ўрэшце, шмат залежыць ад "калектыву", у якім знаходзішся. Вельмі лёгка здабыць "касяк" сярод "малышоў". Яны жывуць паводле паняцьцяў, сфармаваных яшчэ ў выхаваўча-працоўных калоніях для непаўналетніх, дзе барацьба ідзе ня столькі за выжываньне, колькі за самастаўленьне. Таму там шмат бессэнсоўнага, ірацыянальнага. "Малышы" пазьбягаюць чырвонага ("пеўневага") колеру, якія б рэчы ні былі ў яго пафарбаныя, капусты (казьліная ежа), кілбасы (на х... падобная), сала (сала — х... сасала), упалых на падлогу рэчаў (акрамя абутку, усё астатняе пры падзеньні на падлогу "кантачыцца" — робіцца адпрэчаным), гаспадарчага мыла...

Дарослы аўтарытэт можа ігнараваць "малышовыя" забабоны. Старэйшы і мацнейшы можа стаць ініцыятарам зьяданьня кілбасаў ці апрананьня чырвонай кашулі. Пасьля да яго могуць далучыцца астатнія. Але ініцыятыва з боку слабога ў такіх выпадках заўсёды небясьпечная.

Аднак, як ні дзіўна, суровая школа "малышовых" паняцьцяў не абараняе прайшоўшых яе ад "касякоў" на дарослых зонах.

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 17-22)*



**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88.E-mal:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*